№11(37)
24.03.95

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.

**TV программа на неделю**
( стр. 4 )



## УРАТУЕМ?

## Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Філарэту

**Вельмішаноўны Уладыка!**

**Мы віншуем Вас з 60-годдзем.**

**Сацыял-дэмакраты з павагай ставяцца да вернікаў усіх канфесій, у тым ліку і да самай пашыранай у нашай краіне -- праваслаўя.**

**У гэты цяжкі час, калі народ Беларусі імкнецца да адраджэння глыбокіх духоўных традыцый, дазвольце выказаць Вам падзяку за дзейсны ўдзел у адбудове і ўваскрашэнні многіх занядбаных і знявечаных бальшавікамі помнікаў архітэктуры.**

**Сёння, калі паступова адраджаецца наша мова, мы разам з Вамі радуемся, як прыгожа гучыць яна пад старадаўнімі царкоўнымі скляпеннямі і купаламі.**

**Спадзяемся, што з набыццём сапраўднай дзяржаўнай незалежнасці настане росквіт Беларускай Праваслаўнай Царквы.**

**Жадаем Вам, шаноўны Уладыка, плёну, моцнага здароўя, душэўнага спакою, веры, надзеі і любові. Няхай кожнае слова Вашае западае ў душы чалавечыя і абуджае іх нястомна рабіць дабро.**

***Выканаўчы Камітэт Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.***

*"Беларуская маладзёжная" далучаецца да віншаванняў.*

*Любовь ЗАГНЕТОВА, независимый юрист:*

## "Я в жизни многое успела сделать, но этого мало..."

( стр. 3 )

## Армия не волк, в лес не убежит

( стр. 8 )

## ПраРОК

( стар. 7 )

**Наступны нумар "Беларускай маладзёжнай" выйдзе праз тыдзень, 6 красавіка.**

*Ю. ХАДЫКА:*

## БЭДЛАМ

( стар. 2 )

**"Я пытаюсь уйти от этой реальности"**
( стр. 8 )

*А. АСТАПЕНКА:*

## "МЫ НЕ ЎСТУПІЛІ Ў БЛОК З БНФ"

( стар. 5 )

## Кто там шагает правой? Левой! Левой! Левой!

# "Грамада" зарэгістравана

МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ПАСВЕДЧАННЕ

АБ РЭГІСТРАЦЫІ СІМВОЛІКІ АБ'ЯДНАННЯ ГРАМАДЗЯН

№ 0024






Дата рэгістрацыі 9 сакавіка 1995 г.



Міністр ... В. АДАМУКАЛА

# ОБРАЩЕНИЕ
## фракции Белорусской социал-демократической Грамады (БСДГ) в Верховном Совете

**Уважаемые соотечественники!**

**Обратиться к вам нас вынудило выступление А.Лукашенко в день годовщины Конституции Республики Беларусь. В этом Верховном Совете мы всегда были в меньшинстве и, в отличие от президента, еще в 1992 г. пытались добиться его самороспуска и проведения досрочных выборов. В знак протеста мы не принимали участия в голосовании по закону о Верховном Совете. Но антиконституционная истерия президента и его нападки на законодательный орган власти не могут нас оставить равнодушными. Суть конфликта двух ветвей власти мы видим в следующем:**

**-- Верховный Совет выступил под нашим давлением против резкого многократного повышения платы за коммунальные услуги и квартплаты, как этого добивается А.Лукашенко под диктовку западных банков и МВФ;**

**-- Фракция Грамады в Верховном Совете инициировала предложение о компенсации вкладов граждан в Сбербанке (которые были фактически отняты государством из-за инфляции и превратились в шикарные коттеджи и мерседесы небольшой группы чиновников). Еще совсем недавно А.Лукашенко в своих предвыборных заявлениях обещал народу вернуть вклады в виде холодильников и телевизоров, однако, придя к власти и попав под влияние тех, кто вместе с правительством Кебича ограбил народ, резко изменил свое мнение и пытается помешать восстановлению справедливости;**

**-- Часть депутатов стала на пути ловкачей из окружения президента, которые пытаются ликвидировать парламент и прихватить наиболее лакомые кусочки общенародной собственности;**

**-- Большинство депутатов против того, чтобы посылать наших парней в Чечню, Таджикистан и другие "горячие точки" и получать оттуда цинковые гробы. Но А.Лукашенко, будучи депутатом, настойчиво ратовал за "коллективную безопасность", и эту политику продолжает сейчас;**

**-- Со всей откровенностью президент заявляет, что он не будет снижать налоговый пресс и тем самым защищать интересы нашей промышленности, что неизбежно приведет к дальнейшему ухудшению жизни трудящихся;**

**-- Президент и его Кабинет Министров в нарушение Закона о бюджете затягивает взимание транзитных сборов и арендных платежей за военные базы. А ведь за счет этого можно было бы резко увеличить пенсии, пособия матерям, жилищное строительство и улучшить качество медицинского обслуживания.**

**Мы призываем вас не обращать внимания на эту безответственную политическую трескотню и в мае 1995 года избрать достойный Верховный Совет, который станет на защиту интересов человека труда!**

**Депутаты Верховного Совета:**
***В.АЛАМПИЕВ,***
***В.КАКОВКО,***
***О.ТРУСОВ,***
***Л.ДЕЙКО,***
***И.СЕМАШКО,***
***М.КРЫЖАНОВСКИЙ,***
***В.ХВОЩ,***
***М.АКСАМИТ,***
***В.МАЛАШКО,***
***Е.ЦУМАРОВ***

# Бэдлам

Наш прэзідэнт, безумоўна, вялікі арыгінал. Аснова яго жыцьцёвай стратэгіі -- захоп новых і новых плацдармаў. Часу на засваеньне захопленых не застаецца. Альбо ён не ведае, што з імі рабіць. У сваім імклівым руху наперад ён пакідае ў мінулым пасады, паплечнікаў, нязьдзейсненыя абяцаньні і нерэалізаваныя планы. Ён праходзіць праз жыцьцё, як нож праз масла, не пакідаючы следу.

Ён абяцаў змагацца з карупцыяй і злачыннасьцю. Але не расказаўшы нам, хто ж страляў у ягоны мерсэдэс пад Ліёзнам, пачаў змагацца з тымі, хто карупцыю выкрывае. Ён абяцаў свабоду прэсе. Але яна абярнулася свабодаю ад права гаварыць праўду. Можна не сумнявацца, што ён ніколі не вернецца больш да сваёй "Праграмы неадкладных мер", хаця жыцьцё пагаршаецца, як яно не пагаршалася да ягонага прыходу. Бо ўсе ягоныя меры неадкладныя, хаця і непатрэбныя.

Найноўшаю ініцыятываю прэзідэнта стаў рэферэндум. З пенаю на роце ён правальваў у 1992 г. рэферэндум аб датэрміновых выбарах Вярхоўнага Савета, які патрабавалі паўмільёна грамадзян. А зараз ён не шкадуе грошаў на сваю ідэю, хаця сродкаў не хапае на арганізацыю нармальнай выбарчай кампаніі ва ўсе органы прадстаўнічай улады. Яму будзе вельмі цяжка сфармуляваць пытаньні свайго рэферэндуму так, каб яны не парушалі закон. Аднак для яго гэта -- не праблема. Ён неаднаразова засьведчыў, што не зьбіраецца выконваць усе законы. І яму дапамогуць яго новыя паплечнікі. Яны ж -- старыя паплечнікі сп.Кебіча і вялікія майстры дапамогі.

Прадчуваючы тую духоўную асалоду, якую прынясе запланаванае мерапрыемства, хочацца і самому далучыцца да падзеі веку. Неабходна пашырыць кола пытаньняў, каб раз і назаўсёды вырашыць праблему самавызначэньня нашага насельніцтва. Прапаную для назвы дзяржавы на выбар: "северо-западный край" і "усходнія крэсы". Для саманазвы насельніцтва -- "тутэйшыя", "земляки" і "сабораўцы". Для мовы -- "простая", "трасянка" і "малая". Для гімна -- "Божа, храні прэзідэнта" і "Широка страна моя родная". Спадзяюся, што здолеў улічыць усе пажаданьні А.Лукашэнка.

Аднойчы ў нашу мужчынскую школу прыйшоў новы настаўнік матэматыкі. Мой клас сустрэў яго неверагодным гвалтам і поўнаю адсутнасьцю ўвагі. Гэты стары чалавек, спыніўшыся ля дошкі, паглядзеў на нас і ціха прамовіў: "Што гэта за бэдлам?" Неверагодна, але клас сьціх. І нехта баязліва запытаў: "А што такое бэдлам?" "Гэта вар"яцкі дом у Лондане",-- весела патлумачыў настаўнік. Больш у нашым класе бэдламу не было.

Цікава, ці спыніцца бэдлам у нашай краіне?

***Ю.ХАДЫКА, прафесар, намесьнік старшыні БНФ***

# КАЗАЧКА

Усе шчаслівыя краіны па правераных здаўна законах жывуць, кожная няшчасная сваімі "пошукамі" цешыцца...

І замест дакладных гістарычных хронік складаюцца ў няшчасных краінах казкі -- то іх "гісторыяй" называюць, то "адзіна праўдзівым вучэннем", то "праграмным дакладам", то "дакументальным рэпартажам". А як ні назаві -- казка казкай і ёсць. Кожны можа сваё дабавіць. Кожны пхнецца па-свойму перапісаць -- каб канец быў па нечаму разуменню шчаслівы.

Казкамі й цешымся.

... Жыла-была сям"я. А вакол яе - як мае быць -- цэлая радзіна. А вакол радзіны -- свая радзіна. Род? Народ?

Жыла, як усе жылі -- спачатку па-калгаснаму: што дадуць -- тое з"ядуць, потым, як што пад"елі, што мышы пагрызлі, -- і калгас разваліўся. Сваім розумам кожны двор пачаў кіравацца.

Ну й кіраваліся: дзе лепей, дзе горш, дзе зусім горка, а салодка дык і быць не прыспела.

У сям"і як у сям"і: свае старыя, свае дзеці, свае разумнікі, свае дурні. Адметных разумнікаў, праўда, менш было, адметных дурняў пабалей.

І Іван-дурань быў, як жа ў казцы без героя? Як жа без "ролі асобы ў гісторыі"?

Іван спачатку зямлю араў, сярод братоў-аратых хіба што нарванасцю вылучаўся. Але раптам шалёная пагалоска пайшла: што з таго, што нарваны, затое як гыркнуць можа! Як грукнуць!

І цешыўся б Іван пагалоскаю ( дурань думкай багацее), ды дружбакі падбухторылі: " Ці ж ты, Іван, не цар-гаспадар? Ці ж не табе ў сям"і уладарыць?"

Адчуў наш герой тут і моц, і патрэбу, паверыў у наканаванасць. Бацьку з пачэснага кута прагнаў, і перад сям"ёй, і перад суседзямі зганьбіў -- кажуць, нібыта за цвікі. І то -- Бацька надта дэлікатны быў, усё згоды прасіў, што такога пасунуць? Сваяк, праўда, Уплывовы Зяць ( які ўмеў і ведаў, што дзе ўзяць, але доўга на Івана не зважаў, нават калі сварка пачалася), дык вось Зяць спрабаваў уладарства перахапіць. І на падарункі не сквапіўся ( хоць драбязы -- але паболей, каб усім пажадана хапіла), і абяцанкі раздаваў, і сабак прымусіў рэагаваць толькі на свой голас. Ды куды там! Старыя грахі ў рай не пусцілі, а дурням ды п"яным (выбачаюся), кажуць, Бог памагае.

Стаў Іван царом-гаспадаром.Дзень гаспадарыць, месяц .... Поле бур"яном параслo, статак звёўся, хто ўмеў каваць ці спяваць -- у іншыя дзяржавы паўцякалі. Род-народ згаладаў, апошняе даношвае, толькі Іванавы дружбакі бессаромна шчыруюць, кішэні набіваюць.

Да таго дагаспадарыўся, што свой плот, каб не ладзіць, чужынскімі плячыма дамовіўся падпіраць!

Абурылася сям"я. Сабралася.

"Што ты робіш?" -- хацелі спытаць. Але Іван сам закрычаў:

-- Што вы робіце? Я вам цар ці не цар? Чаму пад маю ўладарскую дудку без імпэту скачаце?

А той, хто скакаць не ўмеў (ці не хацеў) утрая атрымалі. Бацьку дасталося! Бач ты, з"ехаў да суседзяў ды там разгаварыўся, бядой падзяліўся: гора нам, маўляў, узлез Іван на гаспадарку, шкоды нарабіў, выпраўляць трэба.

Я табе выпраўлю!

Братам перапала: амаль на кожнага ёсць дас"е, усе хібы ваганні перапісаны, грахі падлічаны-пранумараваны. Яны, Браты, не паспявалі слова сказаць -- Іван іх то адным, то другім, то намёкам, то даведкай, то цытаваннем агентурнага даносу!

Маўчаць, я вам кажу! Ведайце сваё месца, усе пада мной -- гаспадаром-- ходзіце!

Неведама чаму, але болей за ўсіх сабакам дасталося. За тое, што брэшуць. Калі Іван яшчэ не царом быў -- некаранаваным дурнем -- ён з сабакамі любіў павалэндацца. Цешыўся, калі рукі лізалі. Мог падражніць -- ой, як брэшуць, у суседніх вёсках чуваць! Ды ўсё пра яго, Івана...

А тут -- пагразіўся спецыяльны указ выдаць: сабакам толькі на жываце поўзаць ды лісліва ў вочы гаспадару заглядваць! Як якая хоць ціўкне -- знішчаць!

Ой, шмат бяды -- не перакажаш... Ды й загадана не гаварыць: барані Божа, суседзі пачнуць перашэптвацца пра аўтарытарызм, парушэнне правоў чалавека ці гэтую, як там яе, дыктатуру...

У нашай сям"і дыктатуры няма! У нас усё добра -- не дай Бог , каб у вас так было...

Спачатку сям"я Івана слухала -- хто палохаўся, хто злаваўся, хто кпіны строіў. А хто й задаволенасці не хаваў. Спрабавалі прыцішыць, спрабавалі ўгаварыць.

-- Я вас тут усіх паразганю! Вашыя іконы -- вон з кута, на мае маліцца будзеце!

Толькі ў маёй казцы сям"я -- усё ж Сям"я была! (Род? Народ?)Знайшліся ў ёй старэйшыя, знайшліся разумнейшыя -- адлавілі Івана ды добра павучылі па мяккаму месцу. Па-сямейнаму. Бо ва ўсіх сем"ях ведаюць: іншым разам, асабліва ў пераходным узросце, такая дзедаўская навука самая дзейсная. Косці не шкодзіць, а галаву прасвятляе.

І ўсё.

Вы, праўда, можаце напісаць свой канец -- казка ж на тое і казка, каб кожны завяршаў яе па-свойму шчасліва! Толькі ўсе шчаслівыя фіналы падобныя адзін да аднаго: людзі жывуць-пажываюць, дабра наживаюць у згодзе ды спакоі.

Калі ў вас не так -- нешта не тое пішаце...

***Т. НІЧЫПАРУК, "БМ"***

## НАСТУПЛЕНИЕ НА ДЕМОКРАТИЮ ПРОДОЛЖАЕТСЯ

**Исполком ОДПБ заявил, что президент Лукашенко совершил очередное противозаконное наступление на демократию.**

**"В декабре 1994 года газеты, которые хотели напечатать доклад С. Антончика, вышли с "белыми пятнами", за этим последовали аресты тиражей, отказ в печатании негосударственных газет и снятие главных редакторов "Рэспублікі" и "Советской Белоруссии". Это было грубым нарушением закрепленных в Статье 34 Конституции свободы печати, прав человека на получение и распространение информации. Но в этом случае учредителем вышеупомянутых газет был, по крайней мере, Кабинет Министров."**

**Однако президентский указ о снятии с должности главного редактора "Народной газеты" И. Середича является грубейшим нарушением закона: учредителем "Народной газеты" является Верховный Совет и исполнительная власть не имеет к газете никакого отношения, следовательно, этот вопрос не входит в компетенцию президента. Не говоря уже о том, что И. Середич является депутатом Верховного Совета, которого в соответствии с действующим законодательством нельзя снимать с работы. Налицо явное желание видеть прессу "карманной" и послушной во время предстоящей предвыборной кампании. В свое время А.Лукашенко очень возмущался необъективностью прессы в период президентских выборов, однако то давление, которое оказывал на прессу В. Кебич, не идет ни в какое сравнение с тем, что делается сейчас.**

**Любое нарушение принципа свободы прессы расценивается мировым сообществом как грубое наступление на права и свободы человека. ОДПБ с тревогой отмечает, что после случившегося с "Народной газетой" "вполне можно ждать и других неправовых действий, которые могут привести к ликвидации зачатков демократии и установлению авторитарного режима в Беларуси."**

# Як пачуваешся ля ўлады, чацвертая? Сеё-тое з жыцця беларускай прэсы

### Палеміка

Амаль кожны чалавек разглядае навакольны свет са сваёй асабістай пазіцыі. І нават калі сустракаюцца двое са, здавалася б, ідэнтычнымі поглядамі, хутка нейкая дробязь становіцца падставай спрэчкі паміж імі. Правільна казалі раней, што, колькі людзей, столькі і меркаванняў. Рознагалоссі звычайна ўзнікаюць не толькі на бытавым, але і на дзяржаўным узроўні. Так, у нейкага чыноўніка ёсць свой асабісты погляд на жыццё, які неабавязкова павінен падзяляць другі грамадзянін, маючы высокую пасаду. Такая сітуацыя становіцца асабліва цікавай і напружанай, калі антаганістамі становяцца прадстаўнікі чацвёртай улады.

Палеміка выданняў -- справа зусім не новая. Яна бярэ пачатак яшчэ з нараджэння адносна незалежнай прэсы. Заходнікі спрачаліся са славянафіламі ў расійскіх газетах і часопісах XYIII стагоддзя. Манархісты -- з першымі і другімі па чарзе. Галоўнае, што захавалася ў гэтай з'яве і да нашага часу, --гэта глабальныя памеры спрэчных пытанняў. У пераважнай большасці яны былі, ёсць і будуць заставацца пытаннямі грамадска-палітычнага парадку. Не хутка яшчэ наступяць тыя рамантычныя часы, калі мы ўсёй грамадой будзем спрачацца ў цэнтральных выданнях аб мастацка-эстэтычных якасцях нашумелай аповесці маладога аўтара. І вось, калі мы такія сёння ўсе "замкнутыя" на палітыку, то і шукаем у прэсе "аб'ектыўнае і лагічна абгрунтаванае" адлюстраванне грамадска-палітычнага становішча на Беларусі.

### Палітыка вачыма "Праўдзівай газеты"

Пасля абрання першага прэзідэнта палітычная машына Беларусі дала вялікі крэн у левы бок. Кіраўнік любой дзяржавы павінен паважаць думкі і інтарэсы кожнага грамадзяніна. Каб гэта здзейсніць, прэзідэнту трэба быць мудрым цэнтрыстам, абараняючым левых ад правых і наадварот, у залежнасці ад сітуацыі. Зараз А.Лукашэнка трапна вядзе гульню ў адны вароты. Наколькі дазваляе мала кім абмежаваная пасада, ён імкнецца запоўніць мясцовыя структуры выканаўчай улады "сваімі" людзьмі. Працягваецца канфрантацыя з найбольш канструктыўнымі сіламі Вярхоўнага Савета. А менавіта яны ў значна большай ступені абараняюць правы грамадзян ад чыноўнікаў розных калібраў і масцей, якія завязлі у балоце карупцыі, якое абяцаў "высушыць" прэзідэнт.

Імкненне да канфрантацыі ў розных яе праявах моцна б'е не столькі па самому кіраўніку дзяржавы, колькі па міжнароднаму аўтарытэту Беларусі, якая, на думку незалежных экспертаў, набывае рысы аўтарытарызму. У выніку -- скарачэнне крэдытаў і інвестыцый з боку моцнага заходняга капіталу. У той жа час усходнія фінансава-крымінальныя групоўкі пачуваюцца у нас, як дома.

Адным словам, сённяшняму кіраўніцтву не хапае здаровага прагматызму ў знешне-эканамічных адносінах, каб аднолькава ўзаемавыгадна месць справу і з Расіяй, і з заходне-еўрапейскімі краінамі. Без нікому не патрэбных спасылак аб славянскім братэрстве і канфесійных рознагалоссях -- Масква ж нас, напрыклад, доіць па поўнай праграме, нягледзячы ні на што.

І яшчэ не хапае ў кіраўніцтва агульнанароднай і ўсім даступнай ідэі, якая б магла кансалідаваць усё грамадства для рашэння складанай задачы выхаду з крызісу. Прамежкавым звяном паміж радыкальнымі сіламі злева і справа, дальнабачным стратэгам, які бярэ лепшае ад першых і другіх, -- вось кім павінен быць прэзідэнт у нашай краіне.

### Скажы мне, хто твой гаспадар...

Палітычная накіраванасць нашай прэсы вызначаецца вельмі проста -- дастаткова паглядзець у выхадных даных газеты, хто яе заснавальнік. Надпісы кшталту "Кабінет міністраў" ці "Вярхоўны Савет" з'яўляюцца моцнымі стрымліваючымі фактарамі на светлым шляху да свабоднага друку. На дадае вялікага плюса і тое, што кожная газета ў якасці маральнай кампенсацыі друкуе побач: "Калектыў рэдакцыі". Як і шмат гадоў назад, сродкамі масавай інфармацыі імкнуцца кіраваць уладныя структуры.

Вялікі крок у бок ад свайго малаарганізаванага і аморфнага заснавальніка зрабіла "Народная газета". І народ яе падтрымаў у час падпіснoй кампаніі. За праўдзівасць, прынцыповасць і плюралістычнасць. Колькі, напрыклад, рваных нерваў і разбітых ілбоў каштавала рубрыка "Дыскусійная трыбуна"? Затое зараз "Народная газета" з'яўляецца самым масавым і прэстыжным выданнем з паўмільённым тыражом.

Змена лідэраў сярод беларускіх газет адбылася на пачатку 1995 года, калі крызіс улады і ўладавай прэсы размеркаваў месцы на інфармацыйнай прасторы Беларусі. Непрыемнасці "Советской Белоруссии" былі абумоўлены не столькі адыёзнай фігурай галоўнага рэдактара, колькі агульным працэсам дэмакратызацыі журналістыкі, пад які ніяк не пападала гэта выданне. Недзе ў ліпені, калі абедзьве газеты мелі амаль аднолькавую колькасць падпісчыкаў, адбылася смяротная палемічная бойка паміж імі. Даходзіла нават да публічных абразаў. Асінскі назваў сябе Клёнавым, а рэдакцыя "НГ" назвала Клёнава "духоўным байструком ваенных цэнзараў", бо той меў нахабнасць даваць выданню-канкурэнту парады рознай ступені карыснасці.

Так пачаўся заняпад "Советской Белоруссии".

Увесь 1994 год заснавальнікі гэтай газеты ўсімі магчымымі спосабамі псавалі рэпутацыю выдання. Галандскія вуткі і іншыя падобныя прыклады "ўзаемадзеяння газеты і ўрада" здолелі амаль што ўдвая паменшыць тыраж "Советской Белоруссии". На сённяшні дзень гэта газета прадстаўляе сабой вузкападларадкаванае адміністрацыі прэзідэнта выданне, з тэндэнцыяй падаючага тыражу, якую не ў сілах затрымаць ні Мікалай Галко, ні Павел Якубовіч.

А будучыня -- за свабоднай і незалежнай ад урада прэсай. Чытачу не падабаецца, калі яго газеце нехта забараняе штосьці там друкаваць. Яму набілу аскоміну штодзённы афіцыёз і абяцанкі светлага жыцця ў будучым. І таму ён ужо зараз спыняе свой выбар на прыватных выданнях кшталту "Свабоды" і "Андрея Климова". І правільна робіць. Эпоха "Советской Белоруссии" засталася ў неіснуючай краіне з той жа назвай.

**P.S.** *Усе сумныя высновы і прагнозы, змешчаныя ў надрукаваным вышэй артыкуле, спраўдзіліся, як кажуць, на 200 адсоткаў. 17 сакавіка прэзідэнтам быў падпісаны ўказ аб адхіленні І.Сярэдзіча ад пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты". Фармальнай падставай з'явілася "публікацыя матэрыялу, што заклікае да насілля і грамадскага процістаяння".*

*Як бачым, указ пад "д'ябальскім" нумарам 113, прымеркаваны да гадавіны правядзення рэферэндума аб захаванні СССР, быў невыпадковай з'явай. Тут дастаткова нагадаць і "Советскую Белоруссию", якая была пробным каменем; і візіты Рыбкіна, Ельцына, Жырыноўскага, і "новага" начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Замяталіна. Людзі адукаваныя самі ў стане зрабіць з гэтых фактаў пэўныя высновы...*

*Канешне ж, большасць рэдакцыі "Народнай газеты" была абурана такім рашэннем, але ніякіх забастовак у бліжэйшыя часы журналісты рабіць не збіраюцца. Хутчэй за ўсё справа дойдзе да суда, які, як і звычайна, не дасць нічога канкрэтнага. Вярхоўны Савет, калі б і хацеў, наўрад ці абароніць свайго рэдактара, бо адчувае, што прэзідэнт узяўся і за яго. Пытанне аб "самароспуску" парламента загадана вырашыць. Вось такая ў нас "дэмакратыя"... Тым не менш той, хто вельмі любіць здымаць з пасады рэдактараў, павінен ведаць, што народ купляе і выпісвае газеты не толькі дзеля праграмы тэлебачання.*

***Павел ЛОСКУТАЎ, спецыяльна для "БМ"***

*Любовь ЗАГНЕТОВА, независимый юрист:*

# "Я в жизни многое успела сделать, но этого мало..."

***Говорят, что, когда она приходит в суд, судьи готовятся к горячей схватке, где, как правило, успех сопутствует сильнейшему. То есть ей.***

***Говорят, когда она работала юрисконсультом ЖРЭО Заводского района, к ней шли, как паломники: консультации она давала всем подряд с утра до ночи.***

***Говорят, она может перевернуть все наше законодательство, в котором, судя по тому, как мы живем, ой как все несовершенно.***

***А что она скажет о себе сама? "Я -- типичный Овен. Вот смотри, я тебе сейчас в гороскопе подчеркну все, что точно мне подходит... "...Овнам хочется сделать абсолютно все, прямо здесь же и немедленно. И пусть замыслы их осуществятся хотя бы на один процент -- с точки зрения "обычных" людей уже это будет обозначать невероятный успех..."***

**-- Каким было твое детство?**

*(С первого слова отметя мою "вежливую журналистику", она заговорила на "ты", заставив меня сделать то же самое).*

-- С двух до восьми лет лежала в костно-туберкулезном санатории в гипсе. С тех пор у меня осталось эдакое чувство коллективизма: если есть конфета, надо каждому дать укусить. А еще помню дикие боли в ногах: часто по ночам плакала, а когда медсестра спрашивала, что со мной, отвечала, что плачу, потому что у меня умер дедушка (хоть умер он в 43-м году). Вообще, наверно, если бы не мой характер, если бы не занималась танцами и баскетболом под чужим именем (мне же нельзя было), я бы всю жизнь могла проходить на костылях.

**-- А твоя изломанная карьера в молодости -- кондуктор автобуса, потом ночная няня, затем токарь-револьверщица -- это тоже следствие бурного характера?**

-- Я всю жизнь делала то, что мне хотелось. Правда, мне очень нравилось работать токарем: своими руками вытачивать на станке детали. Но с начальством у меня действительно отношения не складывались. Дело в том, что у меня соседка была судьей -- и в общем подвале я находила юридическую литературу. Там я и "разжилась" трудовым кодексом -- и давай защищать права рабочих! Про меня говорили, что я ногой открываю дверь к любому министру: я врывалась в кабинет директора и от дверей начинала заявлять о несправедливости -- иначе потом бы не послушал.

"...*Овны ясно понимают, что никто, кроме них, не способен на такой бешеный натиск, и преданы они чаще всего не своим собственным нуждам, а захватившей их идее...*"

**-- Ты не боялась, что за такую активность тебе набьют физиономию или убьют вообще?**

-- Сейчас, когда назад открутишь, -- страшно. А тогда я знала, что иду за правое дело, что моего личного интереса -- ноль. Я помню, еще в 5 лет, когда меня кто-то обидел, я решила стать милиционером и защищать несчастных.

**-- Ты себя назовешь благородной?**

-- Я -- рыцарь, если это к женщине подходит. Ну, с себя пальто всегда снимала, девчонкам на плечи набрасывала. Из-под автобуса ребенка вытащила. Меня бампером задело, но я привыкла, что ноги болят, а когда домой вернулась, вижу: полная туфля крови... А мне еще за это -- приказ о наказании за сорванный рейс...

*Быстро и без рисовки она перечисляла подвиги, которыми любой другой бы гордился.*

**-- Ты любишь людей?**

-- Я их даже идеализирую: в каждом пытаюсь найти положительные качества. А тем людям, которых отвергают, я особенно стараюсь помочь: им трудно, поэтому они и становятся плохими. А тех, кому уже не поможешь, -- я их жалею, как убогих, ведь счастье в том, чтобы отдавать!.. В этом прелесть моей работы: приходит человек в панике, руки трясутся, а я спокойно все узнаю, все объясняю. Только плохо -- я не умею отказывать. Например, я консультирую человека в суде, а в это время могла бы решить глобальную проблему...

"...*Овны находят себя в организациях, олицетворяющих принципы Нового мира...*"

**-- Ты создала Конфедеративный альянс молодежной ООН. Чем занимается эта организация?**

-- Глупый вопрос. Вот видишь, я сначала скажу, а потом подумаю: а может, обидела человека... Ты не обиделась? *(отрицательно мотаю головой)*. Организация три года существует за мой счет и развивает международное молодежное сотрудничество во всех сферах. Надо просто подтолкнуть молодежь думать о будущем планеты. В Штатах я видела молодежный парламент -- на таком уровне даже наш взрослый не работает. Неужели наши так не могут?

**-- Ты теперь только молодежью и занимаешься?**

-- У меня, кроме собственных троих детей, еще трое, да куда там -- больше. Во-первых, этот Конфедеративный альянс, во-вторых, республиканская программа "Молодежь Беларуси", в-третьих, союз юристов и ассоциация юристов-предпринимателей, а также журнал "Бюллетень нормативно-правовой информации", созданный мной --нескромно, но с моим активным участием. Я уже пять лет пробиваю, чтобы в Минске был информационно-правовой центр, где давали б данные обо всех законах и подзаконных актах республики в контрольном состоянии.

**-- И зачем тебе нужна вся эта жуткая работа? (!!)**

-- Это моя жизнь. Все остальное -- ерунда. Дети, муж, общественные организации -- все это мне нужно, но все же они мешают мне заниматься любимым делом. Профессия юриста -- это смысл моей жизни.

"...*Овны хотят быть нужными, причем не так принципиально, кому и зачем, важно, чтобы их огненная энергия не пропадала понапрасну...*"

**-- Ты -- сильный человек?**

-- В делах я сильный человек. В быту... Боль стерплю любую, личное оскорбление могу проглотить, перевести все в шутку, но больнее всего, когда предают дело.

**-- О чем ты мечтаешь?**

-- Мечтаю, чтобы справедливость восторжествовала, чтоб у нас, наконец, было приведено в порядок законодательство. Мечтаю о гармоничном обществе, чтобы в стране были только богатые. Я ненавижу бедность, и человек может быть духовно богатым, только когда он сыт.

**-- Хочешь ли ты чего-нибудь для себя, просто ради животного эгоизма?**

-- Эгоизма во мне нет. И я счастлива, что живу именно так, как живу.

***Ольга ДЕТЮК, специально для "БМ"***

